# Самапомач Гаспадарска

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 10 (63).
Год VI.
Вільня. 25 Чэрвеня 1937 г.

РЭДАКЦЫЯ:
Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ
Вільня, Завальная № 1.


## Верыць ці ня верыць?

Каб ня было недаразуменьняў, скажам адразу, што тут маем на думцы веру **ў друкаванае слова.**

Да нядаўна ўсюды, а мясцамі й да сягоньня захавалася па нашых сёлах агульная вера ў друкаванае слова. Казалі й кажуць людзі, „што напісана — тое праўда". Ці гэта так?

Мусіла-б быць так, але не заўсяды так ёсьць. Праўду пішуць людзі, якія праўды шукаюць і не хаваючыся за ўсё напісанае адказваюць. Дзе такой яўнасьці няма, там заўсяды можна спадзявацца нейкага схаванага падыходу, каб толькі каго абкруціць, абдурыць ды выцягнуць адну-другую залатоўку. Бывае гэта ў кніжках, а яшчэ часьцей у розных газэтах. Церпяць на гэтым нясьведамы чытач і добры часапіс. Таму ў інтарэсе кожнага з іх трэба гэту справу выясьніць, і то не хаваючыся нейдзе па кутках, а адразу на відомым месцы.

У кожным часапісе трэба разрозьніваць дзьве аснаўныя часьці: рэдакцыйную і гэтак званую „прысланую". Першую з іх выпаўняе рэдакцыя сваім матарыялам спраўджаным, а другую — матарыялам не заўсяды спраўджаным, атрымоўвуючы за месца ў газэце для гэтага апошняга пэўную заплату, быццам арэнду. Да нядаўна гэтыя дзьве часьці, рэдакцыйная і прысыланая, даволі выразна ад сябе адгранічваліся і таму ня было такой небясьпекі надужываньня людзкім даверам. З часам аднак, калі жыцьцё станавілася што раз цяжэйшым, гандаль (арэнда) вольным месцам у газэтах пачаў прыймаць формы што раз больш хворыя, небясьпечныя. Ненасытны п р ы в а т н ы капітал не здавольваецца ўжо звычайнай рэклямай у аддзеле матарыялаў „прысланых", але проста дамагаецца, каб рэдакцыя часапісу хваліла яго ад сябе, сваім собскім імем. І дзеля гэтага разсылае ён часапісам гатовыя адозвы, у якіх хваліць сябе „пад нябёсы" і дамагаецца, каб гэтыя пахвалы друкаваліся ня так, як дагэтуль, у аддзеле „прысланым" ці паміж абвесткамі, але выразна дамагаецца, каб такі матарыял быў зьмешчаны паміж матарыялу рэдакцыйнага, *бяз ніякага знаку,* што паходзіць з чужых рук, як чужая платная абвестка, напрыклад розныя лётэрыі.

Гэткі спосаб рэклямаваньня для людзей абазнаных з тэхнікай рэклямы можа і не пашкодзіць. Але для чалавека верўчага проста, што ўсё надрукаванае паходзіць ад рэдакцыі, такі спосаб рэклямы можа быць вельмі шкодным. Як-жа тады пазнаць, што ў газэце заслугоўвае на веру, а што ёсьць звычайнай платнай, часта вельмі добра замаскаванай рэклямай?

Можа быць на гэта толькі адказ агульны: замаскаваную рэкляму ад матарыялу рэдакцыйнага ў газэце можна навучыцца адрозьніваць толькі часта чытаючы газэту. Заўсяды аднак трэба быць асьцярожным з тымі артыкуламі, якія нікім не падпісаныя (акрамя 1-га артыкулу як рэдакцыйнага), а „абяцаюць на вербе йгрушку". Рэкляма выразная, у форме асобных абвестак, можа быць сусім прызваітай, калі паходзіць ад ведамай фірмы. Калі-ж фірма няведамая і пад абвесткай не падае свайго выразнага адрэсу, а толькі хаваецца за нумарам паштовай скрынкі (робяць гэта вельмі часта розныя гандляры гадзіньнікамі і рознымі тандэтнымі тканінамі ў Лодзі і Варшаве), дык да гэткай абвесткі заўсяды трэба адносіцца крытычна, г. зн. наперад ня верыць.

Гэтыя колькі ўвагаў, дзеля распазнаньня мякіны ў зерні, трэба заўсяды мець на воку чытаючы газэты, а тады менш будзе ашуканстваў. Дадамо пры канцы, што „Самапомач" дагэтуль не зьмяшчала і надалей ня будзе зьмяшчаць ніякіх замаскаваных рэклямаў, хоць заказаў на гэта мае шмат. Таму чытачы нашы ад гэткай небясьпекі могуць быць зусім пэўнымі. Калі-ж зьмяшчаем часам рэкляму ў форме яўнай абвесткі, дык кожны няхай паступае так, як было ўжо сказана.

# *Што, як і калі рабіць?*

*(Земляробская тэхніка).*

## Парадак у гаспадарцы.

Прыбліжаецца да канца стары гаспадарскі год і пачынаецца новы. У гэтым часе розных запасаў у гаспадарцы бывае найменш, на нястачу часу таксама цяпер наракаць ня можна. Таму так-жа цяпер як раз добры час падумаць аб устанаўленьні і ўтрыманьні парадку ў гаспадарцы праз цэлы год.

Нашто гэта патрэбна?

Каб нічога не марнавалася і каб сама праца выконвалася з ахвотай.

Тымчасам, што мы бачым у шмат якіх нашых гаспадарках? Куды ня кінь вокам, усюды на некалькі цаляў ніколі няпрыбіранага сьмяцьця, пылу, парасьцягваная салома, растрэсены гной, цэлыя лужы гнойнай жыжкі, што безпаваротна марнуецца. Часам валяюцца ў неладзе розныя трэскі, суччо, каменьне. А колькі ёсьць нябрукаваных нізкіх панадворкаў, якія з настаньнем дажджоў перамяняюцца ў непраходнае балота, з каторага цяжка ногі выцягнуць, ня то што на гэткім „панадворку" нешта рабіць. Мясцамі гаспадарская снасьць у неладзе пакіненая псуецца ад дожджу і сьлякоты. Увакруг гаспадарскіх будынкаў расьце ні кім ня полатае пустазельле. У гумнах, сьвірнах, хлявох — усюды вісяць шнюры павучыньня, малыя шыбкі ваконныя ў хлявох — калі яны нагул там ёсьць — зусім не прапускаюць дняўнога сьвятла, бо іх ня то што ніхто ня мые, але нават ніколі ня вытра, у сьценах поўна шчэлін, куды ніхто не загляне і дзе вольна плодзяцца й множацца розныя, часта вельмі небясьпечныя шкоднікі здароўя жывёлы і нават самога чалавека.

На ўсё гэта ня можна глядзець „так—сабе." Перад усім гэтак дарма марнуецца рознае сьмяцьцё і адпадкі, якія можца перарабіць на вельмі цэннае натуральнае ўгнаеньне — кампост. Далей, нядбала ўтрыманы панадворак гэта рассаднік усякіх хваробаў. Нядбала пакіненая гаспадарская снасьць, як граблі, бароны, плугі бывае прычынай частых акалечаньняў жывёлы і чалавека, а ўрэшце, бруд, непарадак кепска ўплываюць на людзкую натуру і адбіваюць у чалавека ахвоту да сыстэматычнай працы.

Галоўнай прычынай усяго гэтага бывае несьвядомасьць і прывычка да непарадку. Кепска гэта сьведчыць аб узроўні культуры такога чалавека, але — сьведчыць! Можна йшчэ неяк гэта апраўдаць у гаспадарках, дзе няма маладых сілаў, але ніяк ня можна даравадь гэтага у такіх напр. гаспадарках, дзе ёсьць маладыя сілы, якія адбылі ці то ваенную службу, ці пабывалі нейдзе ў сьвеце на заработках і дзе ня толькі бачылі, але і самі рабілі парадак: пад прымусам гэта рабілі, але для сябе, дабравольна — „няма часу."

Як гэты стан направіць?

Арганізацыйна ці саматугам трэба цяпер якраз пастанавіць правесьці „тыдзень парадку і чыстаты ў гаспадарцы", а пастанавіўшы — зрабіць супольны пераагляд гаспадарак прыступіўшых да такога „тыдня": хто патрапіць такі парадак завесьці і ў працягу тыдня ўтрымаць, той утрымае ўжо яго і праз год і праз жыцьцё.

Парадкуючы гаспадарку, трэба перад усім старанна вычысьціць з панадворку сьмяцьцё, адпадкі і ўсякія бруды, складаючы ўсё гэта на кучу кампосту.*) Балотністыя, асабліва заглыбленыя панадворкі трэба пасыпаць груба жвірам ці пяском, а калі ёсьць каменьне, дык цэлы панадворак ці прынамся сьцежкі трэба выбрукаваць. Усякую гаспадарскую снасьць трэба прымясьціць у мясцох да гэтага прызначаных і ў гэтых мясцох такая снасьць павінна стала знаходзіцца. Зельле, што

*) Аб карысьці кампосту як гною, спосабе ягонага прыгатаваньня і ўжываньня глядзі „Ziemlerobskuju čytanku" — інж. Клімовіча.

## Vioska Lisków.

Šmat havorać siahońnia ab hetaj vioscy z taje pryčyny, što, jak „Samapomač" užo pisała, ad 8 červienia da 4 lipnia sioł. adbyvajecca tam vystaŭka „Pracy i Kultury Vioski." Šmat chto ŭžo na hetaj vystaŭcy pabyvaŭ, a nie adzin tam jašče budzie. My tut apisvać samuju hetu vystaŭku nia budziem. Zaznačym tolki hałasy śviedkaŭ, što na vystaŭcy samaha Liskova n i a m a. Sabrany tam šmat i šmat pakazalnych rečaŭ z usiaje Polščy,—rečaŭ, jakija z Liskovam, jak takim, ničoha supolnaha nia majuć. Ale... „Liskova niama." Tamu zatrymajemsia tut u karotkich słovach ab hetaj niazvyčajnaj vioscy.

Nie adzin z tych, što sioje-toje čuŭ ab Liskovie, a moža navat u im i pabyvaŭ, — dumaje, što heta vioska musiła mieć niejkija asablivyja varunki, jakija pamahli joj hetak raźvicca. Vot-ža takija asablivaści byli tut try: 1. vioska Lisków była biednaja, ciomnaja, raśpitaja, 2. čužaja ŭłada choć na voka j „apiekavałasia" aśvietaj, to ŭ sapraŭdnaści hetu aśvietu strymlivała jak tolki mahła, bo ciomnych ludziej „stryhčy" najvyhadniej, i 3. achvotu i siłu da postupu ŭ miascovych ludziach vykrasiła niazvyčajnaja enerhija, achviarnaść i sapraŭdnaja miłaść baćkaŭščyny adnaho čałavieka — miascovaha probaršča ks. Blizinskaha, jaki pieramahać musiŭ nia tolki varožaść čužoje ŭłady, ale j nizkija danosy svaich-ža ludziej, pierad usim pamieščykaŭ i ichnich padliźnikaŭ. Heta jość tyja „asablivaści," jakimi Lisków byŭ bahaty 37 hadoŭ tamu nazad, kali małady, bo tolki 30 hadovy ks. Blizinski, uradženiec Varšavy, „niazdolny adroźnić pšanicy ad žyta," pryjechaŭ u Lisków i pačaŭ pracu. Pryhledźmosia na chvilinu da hetaj pracy bližej.

Hod 1900. Zakinienaja vioska Lisków. Dajezd trudny. Biada strašnaja, ciemnata, 87 proc. niahramatnych. Małaziamielle i biezziamielle. Usie zarabotki heta vyjezd na letnija haspadarskija raboty ŭ Niamieččynu. Z zarabotkaŭ hetych pryvozili ludzi krychu hrošaŭ, ale niamała i roznych błahich, a časta i prosta zhubnych navykaŭ. Pjanstva šyryłasia niastrymana...

I pry hetkich varunkach, pa hodzie pracy, paŭstaje ŭ Liskavie 1-ja placoŭka: spažyvieckaje tavarystva „Haspadar," jakoje chutka vypierła ŭsich kramnikaŭ nia tolki z samoha Liskowa, ale i z usiej parachvii. Blizu adnačasna z hetym tavarystvam arhanizujecca „Uzajemnaja strachoŭka ad ahnia," siabry jakoj zabaviazalisia dastavić paharelcu patrebnuju kolkaść sałomy i ziernia. Da hetkaj pracy zaachvočvali sialan jak žyvoje słova ks. Blizinskaha i jahony sapraŭdny chryścijanski prykład, tak i čytańnie papularnych hazet i časapisaŭ, jakich u henu paru prychodziła ŭ Lisków 10 ekzemplaraŭ. I mima hetak achviarnaj pracy dla narodu, znajšlisia adzinki (hminny pisar, pryvatnyja kramniki, pamieščyk), jakija zaŭvažyŭšy kulturnuju pracu nad u š v i e d a m l e ń n i e m ludzkich masaŭ, pačali „ŭstaŭlać špicy ŭ kalaśnicy" — pačali staracca, kab ks. Blizinskaha z Liskava vysielić. Z hetaj metaj pisali jany roznyja iłžyvyja danosy gubarnataru, prakuroru i biskupu. — Šmat za heta pryjšłosia paciarpieć, ale kranutaja z miesca sprava nia tolki nia spyniałasia, ale dalej išła napierad.

Zabureńni 1904-5 hodu. Ks. Blizinski na svoj košt kuplaje plac i buduje Narodny Dom. Abminaje pry hetym šmatlikija farmalnaści, jakija paśla pahražajuć zbureńniem užo hatovaha budynku. Ale j heta prajšło, a Dom staŭsia asiarodkam usiakaj kulturna-nacyjanalnaj pracy. Tut asia-

# Запушчаныя работы.

Штораз больш і больш драбнеюць нашыя сялянскія гаспадаркі. І хто можа глядзець наперад, той бача, што агульнага павялічэньня гэтых гаспадарак спадзявацца ня можна. Адзінае, што можна сягоньня йшчэ рабіць, каб падняць даходнасьць сялянскіх гаспадарак, гэта падняць іхнюю культуру, выкарыстоўваючы ўсе магчымасьці. А такіх магчымасьцяў поўна ўсюды.

Пачнём ад найбольш запушчаных, як равы на палёх і сенажацях. Сёлетні год, як ня трэба лепш, паказвае, як важнай ёсьць вада для ўзросту расьлінаў і траваў. Але празмернае мноства вады шкодзіць і яе можна лёгка адвясьці, калі толькі прачысьціць старыя заплыўшыя і зельлем заросшыя равы.

Шмат у нас торфу, які калі ўжываецца, дык пераважна толькі на апал. Вот-жа пры капаньні торфу ня можна яго марнаваць: усякія абломкі і крошкі няпрыгодныя на апал, вельмі прыгодныя на падсьцілку ў гной. Ужываньне торфу, як падсьцілкі, бароніць гной ад стратаў. А дзеля таго, што гэткі торф грашова нічога не каштуе — вымагае толькі працы — дык стасаваньне торфу палепшывае гной і гэтым самым падыймае ўраджай з палёў і агародаў.

Хлеўны гной — гэта падстава ўгнаеньня нашых палёў, бо на купляньне гнаёў штучных драбнейшы асабліва селянін не заўсяды можа сабе пазволіць. А як-жа няўмела гэты гной у большасьці нашых гаспадарак перахоўвуецца і— марнуецца. Найлепш гэты гной у хляве пасыпаць дробна пацёртым торфам. — Больш аднак як у хляве марнуецца ў нас гною на гнаінікох. Праўду кажучы ў нас і няма такіх як трэба гнайнікоў, а гной толькі выкідаецца з хлява на бязладныя кучы, на каторыя лье дождж, сьвеціць сонца... А гаспадар пасьля дзівіцца, што гной „недзе прапаў“: ён выпаласкаўся і выпараваўся.

Заграніцай у некаторых краёх землеробы плацяць высокія штрафы за няўмелае перахаваньне гною. Наш гаспадар плаціць сам нязьлічаныя кары, марнуючы цэнны гной, з каторага ўканцы астаецца толькі няшмат напалову збутвеўшых вехцяў саломы. Церпіць на гэтым цэлая гаспадарка, церпіць перад усім гаспадароў кішэнь.

З гэтым трэба скончыць. Бяз гною няма добрых ураджаяў— гэта правіла, паводле якога гаспадар павінен кіравацца. Гнайнік трэба закладаць на месцы прыпаднятым, каб у яго ня сплывала вада. Дно і бакі павінны быць выбітыя глінай, каб гнойная жыжка ані выплывала з гнайніка надвор, ані ўпівалася ў зямлю. Гнайнік такі акрамя таго павінен мець прыстрэшак, каб сонечныя праменьні ня мелі доступу да гною. Сам гной павінен быць убіты, каб паветра не даставалася ўсярэдзіну, бо яно яго „паліць“. Паверсе такая куча гною павінна быць прыкрыта або торфам, або прынамся пластом клустай гліны, каб не дапусьціць паветра. Калі няма гэткага гнайніка, а хлеў так цесны, што ня можна трымаць гною пад жывёлай, дык гнайнік такі трэба што хутчэй залажыць.

На гэта ніколі ня позна і гэта заўсяды аплаціцца.

*Паз.*



расьце ўвакруг будынкаў, трэба з карэньнем павыкапываць і таксама злажыць на кампост.

На сьмяцьцё найлепш зрабіць скрыню на палазох, каб як толькі яна напоўніцца, зацягнуць канём на кампост. Такая самая скрыня павінна знаходзіцца й пад адходным месцам.

Ва ўсіх гаспадарскіх будынках цяпер якраз пара паздыймаць пыл і павучыньне, усе шпары ў сьценах пазамазываць глінай з вапнай, пасьля ўсё выбеліць, вокны вымыць, а дзе такіх вокнаў у хлявох яшчэ няма, дык канешна трэба іх зрабіць. —

Хто раз усё гэта зробіць, той ня будзе хіба чалавекам, калі не зразумее карысьці парадку ў гаспадарцы.

**Р. Р.**

daje addzieł T—va Škoły (Macierz Szkolna), jaki arhanizuje ŭ parachvii 7 prytułkaŭ — škołak. Kali pieramahła reakcyja, sarhanizavanyja prad tym užo rodnyja škoły pačali isnavać tolki jak *prytułki* i hetkim sposabam dalej hadavali maładoje pakaleńnie. Nia doŭha..,.

Idučy pa linii vypirańnia zusiul čužoj movy i ŭpłyvaŭ, nie pakinuŭ ks. Blizinski biaz uvahi i paradkaŭ hminnych: nie biez jahonaha ŭpłyvu miascovaja hmina (Strzałków) vyniesła pastanovu ab uviadzieńni rodnaj movy ŭ hminie i ŭ škole. Hetaha dla čužych uładaŭ było ŭžo za mnoha: pačalisia aryšty i vyvazy tych, chto byŭ za hetkaj pastanovaj. Heta samaje pahražała i ks. Blizinskamu, za jakoha adnak ustupiłasia ŭžo parachvija. A kali ŭnočy z 15 na 16 žniŭnia 1907 h. pryjechali pa jaho carskija žandary, dyk pilnujučyja sialanskija vartaŭniki zapalili stoh siena. Byŭ heta ŭmoŭleny znak ab niebiaśpiecy. Na hety znak chto žyvy źjechalisia ŭ Lisków i kali-b nie apieka ks. Blizinskaha, dyk žandary nia vyjšli-b žyvymi... Inšaja reč, što ks. Blizinski paśla hetaha na niejki čas musiŭ „źniknuć“ z Liskova, pakul u Kališy nie źmianiŭsia gubarnatar... Ale j paśla roznyja prykraści nie davali spakojna pracavać, bo ŭłada ŭściaž uvažała Lisków jak asiarodak „buntu i niepasłuchmianaści.“ Jakimi niahodnymi sposabami zmahalisia praciŭniki ŭśviedamleńnia narodnych masaŭ vidać z taho, što za ichniaj namovaj była vysłana ŭładam „apelacyja“ kuplenych i zastrašanych ludziej, u jakoj jany dakazvali, što kooperatyva, pazyčkovaja kasa, ramiesnyja varstaty i zala na sabrańni — usio heta dla spakojnaha sielanina zusim lišniaje i tamu jany prosiać razvalić budynak i im addać plac. I chto viedaje, čym usio heta končyłasia-b, kab nie vajna i prychod niemcaŭ. Nastali novyja zadańni i novaja praca. Raptoŭny adychod rasiejcaŭ pakinuŭ Lisków biaz hrošaŭ, a tut jakraz nachłynuła chvala vajennych bieżancaŭ, jakich Lisków achviarna trymaŭ praz doŭhija hady vajny. A kali končyłasia vajna suśvietnaja, Lisków daŭ nie adnaho pryhatavanaha da pracy dla baćkaŭščyny čałavieka.

U 1925 hodzie ŭ Liskavie była sarhanizavana haspadarskaja vystaŭka. Sioletniaja vystaŭka „Pracy i Kultury Vioski“ abdumana šyrej, ale heta jakraz zaciraje toje, što ŭ Liskavie jość, a ŭłaściva kažučy było najcańniejšym — **duch samapomačy.** Treba biazumoŭna padziŭlać tuju enerhiju, z jakoju 67-lety ks. prałat Blizinski da siahońnia kiruje ŭsim žyćciom Liskova. Mimavolna adnak naprašvajecca pytańnie, čamu da siahońnia, pa 37 hadoch pracy, nie sarhanizavaŭsia ŭ Polščy *„druhi Lisków,“* jak hetaha žadali ŭčaśniki ŭračystaha adčynieńnia sioletniaj vystaŭki?

Lišnie daloka ad nas Lisków i lišnie mała majem ab im matarjałaŭ, kab na pastaŭlenaje nami naviersie pytańnie adkazać z usiej peŭnaściu. Majem adnak mnoha danych na toje, kab dumać, što sposaby pracy ŭ Liskovie na siahońnia ŭžo pierastareli dy što vonkavyja varunki pracy j siahońnia nie pierastali być ciažkimi. Kali-ž šukać pryčyny, čamu tak narod pavieryŭ u svoj čas ks. Blizinskamu i za im pajšoŭ, dyk tut razhadka moža być zusim peŭnaja: narod vieryŭ pravadniku, a pravadnik nia mieŭ schavanych ad narodu namieraŭ. Narod i duchoŭnik— heta było adno sucelnaje. U hetym byŭ sakret udačy ks. Blizinskaha ŭ Liskovie i tut jość pryčyna niaŭdačaŭ novačasnych arhanizataraŭ našych pierad usim biełaruskich sioł i miastečak: nikoli nie sarhanizujuć jaho ludzi čužyja. Kali zrazumiejuć heta tyja, chto da nas čužych ludziej prysyłajuć?

**K.**

## Гнойная жыжка.

У сялянскіх гаспадарках гнойная жыжка звычайна марнуецца цалком. Адплываючы з хлявоў і гнайнікоў яна ўпіваецца ў зямлю, або разам з дажджавой вадой сплывае ў прыдарожныя равы. Тымчасам гэта жыжка мае ў сабе вельмі шмат цэнных і для разьвіцьця расьлін канешных сучастак. Калі-б гэтыя сучасткі адпаведна выкарыстаць, дык падняло-б гэта вельмі даходнасьць гаспадаркі. Бо калі гэту гнойную жыжку распусьціць вадой (на адну мерку нераспушчанай жыжкі 10 такіх-жа мерак вады), ды паліваць такое варыва, як капусту, агуркі, бручку і г. д., садовыя дрэвы і наагул усякія расьліны, дык ураджай іх відавочна паправіцца. Заўсяды толькі трэба прад паліваньнем мяшаць чыстую гнойную жыжку (мача) з вадой, бо йнакш расьліны замест паправіцца — папаляцца.

Можна так-жа гнойнай жыжкай паліваць кучы кампосту. Разбаўленай гнойнай жыжкай можна такжа паліваць кучы перасушанага або саламянага і вельмі сьвежага хляўнога гною. Ува ўсіх гэтых выпадках застасаваньне гнойнай жыжкі можа быць вельмі карысным.

Натуральна, каб гнойную жыжку карыстаць трэба яе мець, гэта знача трэба яе зьбіраць. Ня можна дапускаць да таго, каб яна ўпівалася ў зямлю ці ўгнойвала без патрэбы прыдарожныя равы, у каторых расьце толькі рознае пустазельле, якое стуль засьмячае сабой усё поле.

Зьбіраньне гнойнай жыжкі — справа лёгкая. Даволі ў ніжэйшым месцы, куды магла-б сьцякаць жыжка, укапаць бочку ці йшчэ лепш два цэмэнтавыя кесоны, якія ўжываюцца пры будаваньні студні, і справа гатовая, асабліва калі йшчэ выцэмантаваць дно, або выбіць клустай глінай, якая ня ўпівала-б жыжкі. Верх такога рэзэрвуара-студні прыкрываецца дошкамі, каб усьцерагчыся ад высыханьня ды каб туды не ўваліліся якая жывёла, ці нават сам чалавек. Калі на панадворку ў блізкасьці хлява няма адпаведнага месца на залажэньне такога рэзэрвуара-студні, дык тады закладаецца яна ў куце самага хлява, забясьпечываючы, каб да яе не магла ніяк дастацца жывёла, ды каб выпароўваньнем не затрувалася ў хляве паветра. У кожным разе ня можна пазволіць, каб цэнныя складнікі гнойнай жыжкі дарма марнаваліся. *Паз.*

## Больш пшаніцы!

Далёка йшчэ да часу сяўбы азімінаў, але пара ўжо падумаць: дзе, што й як даваць, каб работа найлепш аплачвалася. І тут напрашваецца пытаньне пасеву пшаніцы. Не дзеля таго, каб „прыеўся ўжо хлеб", але выключна дзеля меркаваньняў збыту лішкаў таго, што вырабіцца ў гаспадарцы, ну — і дзеля большай размавітасьці ўбогага сялянскага стравасклады.

Перад усім цана пшаніцы вышэйшая на 25 працэнтаў, чымся цана жыта. Гэта знача, што за кожную залатоўку за прададзенае жыта, можна атрымаць 1 зл. 25 гр., калі гэта будзе пшаніца. Пшаніца ёсьць таварам на ўсесьветным рынку, дзе яе можна збыць і таму яе шырака гадуюць. З пшаніцы ўсюды пякуць ня толькі пірагі, але й штодзенны хлеб. Жытні-ж хлеб акрамя Беларусаў пякуць толькі ў Польшчы, у балтыцкіх і скандынаўскіх краёх, у Расеі й Нямеччыне. Дзеля таго жыта бывае танным і на яго купца знайсьці цяжэй, чымся на пшаніцу.

Не без значэньня так-жа й тое, што пшаніца дае вышэйшы ўраджай, чымся жыта, а дзеля таго, што і цана пшаніцы бывае вышэйшай, дык і даходнасьць ураджаю пшаніцы з гэктара бывае так-жа вышэйшай.

Праўда, пшаніца хоць больш дае, але больш і вымагае. Любіць яна ня толькі лепшую глебу й лепшае месца ў севазвароце, але вымагае так-жа й лепшага абрабляньня глебы, багатага гнаеньня, добра адплачваецца за дагляд як увосені так і вясной. Трэба на гэта больш працы, як людзкой, так і ўпражнай. Але з другога боку гэта й добра, бо цяпер-жа якраз вёска найчасьцей задыхаецца ад безработцьця, а нікому не сакрэт, як абкрадае гаспадарку нявыкарыстаная сіла конская. І заданьнем земляроба ёсьць гэту сілу ў гаспадарцы выкарыстаць поўнасьцю, гадуючы такія расьліны, якія вымагаюць больш працы. А пшаніца такой расьлінай ёсьць. Вялікая гэта абмылка, калі чалавек няраз выі сьцерагаецца сеяць такія расьліны,

---

Інж. Ад. Клімовіч.

## Асновы земляробскай эканомікі.

6)

**Абаротны капітал.** Абаротны капітал тым адзначаецца ад усіх іншых капіталаў, што цалком зужываецца ад аднаразовага ўжываньня. Сюды адносяцца: запасы (збожжа, гнаёў і інш.) і гатоўка. Значэньне абаротнага капіталу ў гаспадарцы можна было-б прыраўняць з значэньнем крыві ў арганізьме жывіны (жывёлы). Таму гаспадарка без абаротнага капіталу падобная бывае да жыцьця падрэзанай жывёлы, з спушчанай крывёй. Колькі абаротнага капіталу патрабуе гаспадарка, залежа ад характару самай гаспадаркі: гаспадаркі, якія маюць часты прыход, напр. з продажы малака і малочных прадуктаў, менш патрабуюць абаротнага капіталу, чымся гаспадаркі, якія такога частага прыплыву гатоўкі ня маюць.

Уладаньне абаротным капіталам вымагае выдаткаў на апрацэнтаваньне (ад 5 да 8 прац.) і на страхоўку, галоўным чынам проціў агня, а так-жа крадзежы.

Ацэнка абаротнага капіталу (запасаў) ў гаспадарцы ёсьць вельмі важнай, але не заўсяды лёгкай, асабліва пры ацэньваньні такіх запасаў, як гнаі: штучныя і натуральныя. Агулам тут можна толькі сказаць, што ўсякія запасы ацэньваюцца паводле вартасьці куплі (цана на рынку + дастаўка з рынку ў гаспадарку), паводле адноснай вартасьці купл, (сума, якую трэба выдаць, каб атрымаць гэтульксама цэнных сучастак аднолькавых што да якасьці, але іншых што да формы), паводле вартасьці ўжыткоўнай, паводле вартасьці вытворчай, ці ўрэшце паводле вартасьці прадажнай (цана на рынку зьменшаная коштамі дастаўкі з гаспадаркі на рынак).

## II. Арганізацыя земляробскай гаспадаркі.

Як найбольшы чысты прыбытак (гл. бач. 7) гэта сьцісла гаспадарская мэта кожнай гаспадаркі. Чысты прыбытак у гаспадарцы бывае тым большы, чым большы натуральны прыбытак, чым выгадней гэты прыбытак праданы і чым ніжэйшыя кошты прадукцыі (гл. бач. 6—7). Дасягнем гэтага, калі ўсе чыньнікі вытворчасьці (прырода, праца і капітал) будуць як трэба застасаваны; гэта знача

а) калі яны будуць дасканальна дастасаваныя да натуральных і гаспадарскіх варункаў краіны і

б) калі ніводнага з іх ня будзе ані за шмат, ані тымбольш за мала.

Таму ў цэлай гаспадарскай працы павінен быць ня толькі наперад апрацаваны плян, але гэты плян павінен быць стала дастасоўваны да ўсіх прыродных і гаспадарскіх зьменаў.

Пры састаўленьні гаспадарскага пляну трэба наўперад ясна ведаць, ці аплаціцца ў ёй большы ўклад працы і капіталу, ці галоўная надзея можа быць толькі на сілу прыроды. У апошнім выпадку

## Карчаваньне пасекаў

Карчаваньне пасекаў гэта вельмі цяжкая і сапраўды мазольная работа. Асабліва, калі карчаваць толькі „голымі рукамі.“ Таму вельмі на часе будзе пазнаёміцца з найпрасьцейшай да гэтага машынай, паказанай на нашым абразку.

Найважнейшай часткай такой прылады ёсьць гэтак званы „гэвэр“ (азначаны літарай „D“). Як ім працаваць?

Гэвэр з спушчаным „відэльцам,“ на каторым паложаны адзін канец моцнай жордкі, становіцца на адрэзак тоўстай дошкі (азначанай літарай „E“).Другі канец гэтай жордкі кладзецца таксама на падкладку, (літара „C“) каб ад цяжару падыйманага пня не занураўся ў зямлю. На самую жордку праз шырокае колца надзеты моцны ланцуг („B“), на другім канцы якога знаходзіцца сталёвы крук (A). Гэтым круком беспасярэдна або пятлёй падчэпліваецца пень. Калі ўсё гэта зроблена, тады работнік пачынае круціць корбу гэвэра. Ад гэтага „відэлец“ гэвэра падыймаецца, падыймаючы з сабой жордку, а гэтым самым—пры пасрэдніцтве ланцуга—падыймаецца ўверх і пень.




**Прыладзьдзе да карчаваньня пнёў.**

Гэткім чынам можна карчаваць вялікія карэнастыя пні, ня трацячы на гэта і палову тэй сілы і здароўя, якая была-б патрэбна пры карчаваньні голымі рукамі. Патрэбны на гэта толькі гэвэр, які можа зрабіць кожны больш-менш панятлівы каваль.

**В. К.**

---

якія вымагаюць шмат працы. Бо не тады работніку ці земляробу-гаспадару будзе лепш, калі ён будзе сядзець злажыўшы рукі і ня будзе з гэтага мець заработку, але тады, калі будзе мець працу й заработак. Гэта справа так ясная, што тлумачыць яе зусім ня трэба.

*Паз.*

*Kutok dla haspadyniaŭ*

## Biezalkaholnyja napitki na raboču čas.

Čystaja vada hasić smahu tolki na karotki čas. Damieški da vady, pryhatavanyja chvabryčnym sposabam, byvajuć darahija; a taniejšyja damieški škodny dla zdaroŭja. Treba dziela taho pašukać takich napitkaŭ i damiešak, jakija byli-b zdarovymi, a prynamsia nia škodnymi dla zdaroŭja i prystupnymi pa svajoj canie. Jašče lepš budzie, kali napitki hetkija navučymsia rabić u svajej sobskaj haspadarcy. Mataryjałam da hetaha mohuć być: žytni razovy chleb, sadovyja apadki, ihruški-dzički, čornyja parečki i ŭrešcie rabarbar. Razhledzim ich koratka i paparadku.

Dobry **chlebny kvas** možna pryhatavać hetak: 2 kilohramy razovaha chleba režucca spačatku na tonkija śkibački, jakija paśla razrazajucca nakryž. Atrymanyja hetak drobnyja „kostki“ (kubiki) chleba mocna sušacca, až „rumianiacca“ i paśla taŭkucca na parašok, ssypajucca ŭ čystuju sudzinu, napr. u viadzierca, i zalivajucca kipiačaj vadoj (kala 15 litraŭ, abo 4 harcy). Kali zalitaja vada krychu prystynie, dadajecca da jaje paŭtary šklanki cukru i 3 deka (30 hram) dobrych, śviežych droždžaŭ. Hetak raščynieny kvas stavicca ŭ ciaple. Praz 12 hadzin miešanina pačynaje bušavać, a na viersie tvoracca šumaviny (kažuch), katoryja treba aściarožna źbirać.

Kali bušavań nie končycca, nia

---

гаспадарка называецца *экстэнсыўнай,* а ў першым—*інтэнсыўнай.* Найбольш экстэнсыўнай (першабытнай) гаспадаркай ёсьць пасьба жывёлы на дзікіх пасьбішчах або зьбіраньне дзікіх пладоў. Сягоньня экстэнсыўнай называем такую гаспадарку, у якой зямля абрабляецца недасканальна, мала ўжываецца гнаёў, гаспадарскіх машын і наагул навачаснай земляробскай тэхнікі (мэліорацыі, заводнае насеньне, многапольны севазварот і г. д.). Асьветы—ані агульнай ані фаховай—такая гаспадарка шмат не патрабуе, а міма таго ўсё-ж аплачваецца там, дзе цана на гаспадарскія прадукты нізкая. Напр. у такой Англіі, пакуль трымалася ў сіле высокае цло на прывознае збожжа, датуль аплачвалася гаспадарка інтэнсыўная. Калі аднак цло было скасавана і прывознае таннае збожжа заплавіла рынак, тады, ясна, дарагая інтэнсыўная гаспадарка перастала аплачвацца і трэба было перайсьці да спосабаў гаспадаркі экстэнсыўнай; ральля мясцамі перамянілася ў натуральныя (дзікія) пасьбішчы.

Укладаючы ў гаспадарку капітал і працу, падыймаем ейную інтэнсыўнасьць, а разам з гэтым і ўраджайнасьць. Але пры ўсім гэтым ня можна забывацца на прыроду, якая кладзе граніцу чалавечаму розуму, не пазваляе пераступіць пэўную граніцу. Такой граніцай зьяўляюцца гэтак званыя э к а н а м і ч н ы я з а к о н ы: закон гаспадарскага мініма і закон зьмяншаньня ўраджайнасьці глебы.

Гаспадарскі *закон мініма* сьцьвярджае, што колькасьць і якасьць ураджаю залежа ад таго чынніка росту (гнаеньне, вада, сьвятло, цяпло, паветра, пагода, усякія свомасьці глебы), якога ёсьць найменш. — Закон-жа *зьмяншаньня ўраджайнасьці* глебы паказвае, што падвышаньне гаспадарскага накладу падыймае ўраджайнасьць толькі да пэўнай граніцы, ад каторай такое падвышаньне накладу перастае ўжо аплачвацца, а пасьля дык і проста прыносіць страту. Знайсьці граніцу, на каторай гаспадарскі наклад найлепш аплачваецца, гэта заданьне разумна гаспадарачага земляроба; памагаюць-жа да гэтага гаспадарскія абрахункі (калькуляцыя).

## Састаўляньне пляну земляробскай вытворчасьці.

Як будаўнічы не пачне ставіць будову на сьлепа, пакуль не саставіць пляну будовы, так і гаспадар не павінен нічога рабіць датуль, пакуль не саставіць пляну гаспадаркі.

У земляробстве знаем перадусім дзьве ад сябе ўзаемна залежныя галіны вытворчасьці: р а с ь л і н н у ю і г а д а ў л я н у ю. Дзеля таго састаўляецца плян спачатку для кожнай галіны вытворчасьці асобна (пробны), а пасьля абодва гэтыя пляны ўзгадняюцца ў плян адзін, аканчальны.

### *Плян вытворчасьці расьліннай.*

Асновай гаспадаркі ёсьць вытворчасьць расьлінная; ад яе залежыць гадоўля і земляробскі промысел. Дзеля састаўленьня пляну расьліннай вытворчасьці трэба:

1. падзяліць зямлю на ніўкі пад пасеў пасобных гатункаў расьлінаў;

śpieły kvas raźlivajuć u čystyja vysušanyja butelki, u katoryja prad tym ukidvajucca pa try vymytyja razynki. Napoŭnienyja butelki zakarkoŭvujuć, a kab hazy hetaha korku nia vypierli, jaho pryviazvajuć šnurkom ci drotam. Samyja butelki tady vynosiacca ŭ miesca ściudzionaje (sklep, varyŭnia) i kładucca lažma. Kvas daśpiavaje pa 3—4 dnioch. Za hadzinudźvie prad pićciom taki kvas stavicca na lod. Kali ladoŭni ŭ haspadarcy niama, tady butelki z kvasam sastaŭlajucca ŭ čystaje viadro, jakoje na mocnaj viaroŭcy spuskajecca ŭ studniu (kałodzież): kvas tady dakładna achałodzicca.

Niaśpiełyja **apadki** (jabłyki j ihruški) z sadu heta taksama dobry mataryjał na kvas. Sabranyja apadki pierabirajucca, vybirajucca tolki štuki zdarovyja, ačyščajucca, razrezvajucca na čatyry čaści kožny, ssypajucca ŭ čysty bačonak, abo ŭ emaljavanaje viadzierca i zalivajucca vadoj, pry hetym vady dajecca ŭ dva razy bolš jak apadkaŭ. Zalityja hetak apadki staŭlajucca ŭ ciopłym miescy na dva dni, paśla žyžku treba pracadzić praz pałatnianuju cadziłku, zasaładzić, kolki chto lubić, raźlić u butelki i zakarkavać, jak pry kvasie chlebnym. Hetkija napoŭnienyja butelki praz try dni chaj pastajać na soncy (napr. na vaknie), paśla na tydzień ich vynosiać u sklep i kvas hatoŭ.

Z dzikich polnych **ihrušak** (dzičak) možna pryhatavać napitak u vieraśni adnaho hodu i datrymać da rabočaha času ŭ nastupnym hodzie. Zdarovyja, ale niepieraśpiełyja jhruški treba spačatku dobra apałaskać, ssypać u bačonak tak, kab zaniali ŭ joj try čviortki prastoru, zalić da paŭna vadoj, nakryć denkam, prycisnuć kamieniem i vynieści ŭ sklep. Pa troch miesiacach napitak hatovy; ciapier raźlivajecca jon u butelki, u katorych moža praležyć i niekalki miesiacaŭ. Samyja jhruški mohuć być dobrym prysmakam.

Z **čornych parečak** napitak pryhataŭlajecca hetak: kilohram śpiełych parečak zalivajecca 10-ciu litrami vady, razvarvajecca, cedzicca praz hustuju pałatnianuju cadziłku i vyciskajecca. U atrymanaj ciečy raspuskajecca 60 deka (paŭtara funta) cukru i 5 hram droždžaŭ. Usio heta dakładna miašajecca i źlivajecca ŭ butelki, u katoryja prad tym było ŭłožana pa 2—3 razynki. Butelki hetkija trymajucca adzin dzień u ciaple, a paśla vynosiacca na dva dni ŭ sklep i — hatova.

Z **rabarbaru** pryhataŭlajecca sok, jaki dadajecca da vady. Paŭkilohrama rabarbaru abirajecca z „skurki“, režacca na kuski, zalivajecca litram vady, dadajecca paŭčviortki kilohrama (12 deka) cukru i varycca z prydańniem cytrynavaj skurki. Pieravaranaja cieča cedzicca, staranna źlivajecca ŭ butelki i vynosicca ŭ ściudzionaje miesca.

Pry kancy treba zaŭvažyć, što nia možna nijakich napitkaŭ šmat pić za raz, „adnym ducham“: hetak smaha nie prahaniajecca, a serca zmušajecca biez patreby da silnaj pracy. Treba dziela taho pić pa mienš, ale čaściej.

**S. S.**

## Małako „zvaryłasia.“

Kali małako niatryvałkaje, dyk heta znak, što jano chvoraje. Psujuć jaho škodnyja bakteryi i roznyja damieški, jak karoviaja poŭść, pył, kroški piasku, hnoju i h. d. Usie hetyja damieški heta rezultat niadbajnaści haspadyni.

Śviežaje małako z vymja zdarovaj karovy vychodzić zdarovym. Maje jano ŭ sabie bakteryi taksama, ale hetyja bakteryi nia tolki nia škodnyja, ale navat karysnyja.

Z tym adnak mamentam, jak vydojvanaje małako spatykajecca z rukami dojki, z načyńniem, u heta małako dastajucca i roznyja škodnyja damieški. Škodnyja bakteryi ŭ śvieža nadojenym c i o p ł y m małace tak chutka raźvivajucca i množacca, što zabivajuć bakteryi dobryja. U vyniku ŭsiaho hetaha małako raskładajecca, a kali jaho pačać varyć, dyk—„zvarvajecca.“

Jak ad hetaha baranicca?

Jość mnoha chemičnych damieškaŭ, u formie paraškoŭ, jakija pieraškadžajuć raźvićciu škodnych bakteryjaŭ. Ale dobryja damieški — darahija, a horšyja — škodziać na zdaroŭje. Dziela taho najlepš:

1. čysta myć i trymać usiakuju sudzinu na małako;

2. čysta ŭtrymoŭvać karovu, asablivaje jejnaje vymja;

3. śvieža nadojenaje małako zaraz-ža achaładzić jak tolki možna nižej, kab hetak „uciačy“ ad ciaplini, pry katoraj množacca i raźvivajucca škodnyja bakteryi.

**S. C.**

---

2. выбраць расьліны, якія ў даных варунках могуць у полі гадавацца;
3. устанавіць іхнія ўзаемаадносіны;
4. устанавіць севазварот;
5. выпрацаваць плян гнаеньня;
6. зрабіць абрахунак сяўбы і ўраджаю;
7. устанавіць патрэбны лік цяглай сілы;
8. устанавіць гатунак і мноства інвэнтара;
9. устанавіць патрэбны лік работнікаў;
10. устанавіць характар і мноства гаспадарскіх будынкаў.

**Падзел глебы пад расьліны.** Ня кожны гатунак глебы адпавядае расьліне. Таму наўперад трэба абрахаваць, дзе напр. кусок поля выгадней замяніць агародам, а гдзе, наадварот, мокрае поле замяніць на сенажаць, ці сухую сенажаць узараць на поле. Пры гэткіх абрахунках можна сьцьвердзіць, які прац. прыносіць капітал уложаны ў адзін гэктар сенажаці і параўняць гэты працэнт з даходнасьцю аднаго гэктара поля. Дзеля гэтага ў кожным паасобным выпадку абрахоўвуецца спачатку сыры грашавы прыбытак, ад каторага адыймаюцца кошты прадукцыі, пасьля чаго атрымоўвуецца прыбытак чысты. Маючы прыбытак чысты і прыбытак сыры грашавы, вырахоўвуецца працэнт гэткім спосабам:

$$\frac{\text{ПЧ} \times 100}{\text{ПС}} = \text{працэнт.}$$

ПЧ = прыбытак чысты
ПС = прыбытак сыры.

**Выбар расьлінаў гадаваных у полі.** Тут трэба разрозьніваць расьліны галоўныя і пабочныя. Г а л о ў н ы я расьліны гэта такія, якія найлепш у даных варунках растуць і гэтым самым надаюць кірунак усей гаспадарцы, напр. жыта, бульба, лён. — П а б о ч н ы я расьліны гадуюцца ў колькасьці меншай, між іншым дзеля таго, што ўраджай іхні ня пэўны. На выпадак неўраджаю іх няма вялікай пагрозы. Капітал уложаны ў прадукцыю такіх пабочных расьлінаў трэба апрацэнтоўваць звычайна вышэй: большае тут рызыка і большая вымога працы.

**Узаемаадносіны гадаваных расьлінаў.** Пры ўстанаўляньні, колькі якой расьліны сеяць у гаспадарцы, інакш паступае земляроб дробны і йнакш — земляроб буйнейшы. Першы з іх мяркуе так абсеяць поле, каб мець з свае гаспадаркі ўсё, што толькі патрабуе на пражыцьцё: жыта й пшаніцу — на хлеб і прыварак, бульбу, бурак, крыху лёну, крыху варыва. Інакш мяркуе гаспадар буйнейшы — для яго кірунак абсеву вырашае цана тае ці іншае збажжавіны на рынку: што лепш плаціцца, тое й сеецца. Іншая рэч, што напр. цукровы бурак ня вырасьце на бульбяных супясках ды што часам нейкая расьліна ў пару пасеву стаіць у цане вельмі высака, а пакуль дойдзе да збору, дык і ападзе. А здараецца й наадварот. Пры гэтым важна і тое, што ў большых нават гаспадарках на сільнейшых грунтох звычайна лепш аплаціцца вырадаваць на месцы напр. бульбу ці жыта для дэпутатнікаў, чым купляць усё гэта прадаўшы прад тым цукровыя буракі і пшаніцу. Таксама ў выняткавых толькі выпадках аплаціцца засейваць пашныя расьліны як расьліны галоўныя: на пашу звычайна павінна хапіць канюшына-ўсеўка.

# Гаспадарская хроніка.

**З Беларускага Коопэратыўнага Банку.** 23-га траўня адбыўся сход сяброў Беларускага Коопэратыўнага Банку, на якім прыняты справаздачы Нагляднай Рады і Ўправы, зацьверджаны білянс і рахунак прыбыляў і страт, і выражана Ўправе абсолютория.

Падчас нарадаў выявілася, што коопэратыва знаходзіцца ў цяжкім палажэньні, спрычыненым агульным гаспадарскім крызысам, а такжа тым, што ў выніку праведзенай канвэрсыйнай акцыі няма патрэбнага даплыву ў коопэратыву грошаў.

Пасьля зацьверджаньня бюджэту, сход разважыў плян працы коопэратывы на наступны год. Плян гэты, між іншым прадбачыць спаганяньне даўгоў, перадусім у тых даўжнікоў, што не скарысталі з дабрадзейства конвэрсыйных дэкрэтаў, а так-жа прадбачыць справу прапаганды і популярызацыі коопэратывы ў шырокіх гушчах народу.

Урэшце сход выбраў Наглядную Раду і пастанавіў злажыць ахвяру на помнік беларускаму пісьменьніку Ядвігіну Ш.

Для інфармацыі трэба дадаць, што коопэратыва заснавана ў 1925 г. Сяньня налічае 428 асоб — сяброў.

**Коопэратыўны Зьезд.** 18 г. м. ў Вільні адбыўся зьезд прадстаўнікоў земляробскіх коопэратываў Віленскага вокругу, які абыймае Віленшчыну й Навагрэдчыну. З справаздачы на зьезьдзе выглядае, што ў тутэйшым вокрузе ў 1936 г. было сарганізаваных у саюзе 348 коопэратываў, з якіх 241 — ашчаднiцка — пазычковая, 77 малачарскіх, 19 земляробска-гандлёвых і 11 розных. У справаздаўчым годзе прыбыло ў Саюз 21 коопэратыва. Паза Саюзам на гэтым самым абшары ёсьць 144 коопэратывы „дзікія,“ якія да ніякіх саюзаў не належаць.

**17-ты Земляробскі Кангрэс** адбываўся ў сярэдзіне гэтага месяца ў Гаазе (Голяндыя). Паза справамі фахова-земляробскімі, Кангрэс прыняў учасьце ў вялікай маніфэстацыі на карысьць сусьветнага міру і проціў вайны. — Прадстаўніком Віленскіх земляробаў на гэтым Кангрэсе быў рэктар В. Станевіч.

**Іўе коленізуюць жыды.** Вялікі двор Іўе (6 тысяч гэктараў), які з ліцытацыі колькі год таму назад купіў Варшаўскі жыд Г. Гэллер, цяпер мае быць падзелены на калёніі, у якіх асядуць жыдоўскія калёністы. 35 сем'яў дагэтуляшніх парабкаў ужо страціла працу. Падае гэту вестку польская прэса.

**Ягады дарагія.** Сёлетнія сьпекі кепска ўплылі на ўраджай ягад. У параўнаньні з мінулымі гадамі прывоз на рынкі ўсякіх ягад сёлета дзеля таго вельмі малы і цэны іх падняліся высака: за кілёграм трускавак ад 70 гр. да 1 зл., а кілёграм паземак — 1. зл.

# Што чуваць на сьвеце

## У Саветах.

*Тухачэўскі і 7 генэралаў расстрэляны.* Найвышэйшы Ваенны Суд СССР у Маскве 11 г. м. засудзіў на сьмерць маршала Тухачэўскага і генэралаў: Убарэвіча, Якіра, Корка, Путну, Эйдэмана, Прымакова і Фэльдмана. — Прысуд выдалі: Ульрых (старшыня), Алксніс, Буденный, Блюхер, Шапошнікоў, Белов, Дыбенка, Кашырын і Горячев. — Усе засуджаныя былі расстрэляны дня 12 г. м. — Хоць афіцыяльнай прычынай гэткага прысуду пададзены шпіонаж названых генэралаў на карысьць чужой дзяржавы (Нямеччыны), то аднак гэтаму наагул ня верацъ і дагадваюцца, што расстрэляныя рашуча ўспраціўіліся загаду Сталіна з д. 11 мая сёл., які ўводзіў у армію ваенныя саветы і камісараў.

*Далей „чысьцяць.“* Самагубства Гамарніка і расстраляньне Тухачэўскага з 7-мю іншымі генэраламі гэта йшчэ не канец: арыштаваны йшчэ цэлы рад розных высокіх чыноў, як нядаўныя савецкія амбасадары ў Гішпаніі — Розэнбэрг, у Кітаі і Турцыі — Карахан, у Нямеччыне — Крэстінскі і шмат высокіх чыноўнікаў у цэнтральных камісарыятах СССР. Расстраляньне вайсковых, як падаюць заграпічныя газэты, паслужыла ў некаторых гарадох прычынай да забурэньняў, скіраваных проціў мясцовых Г. П. У. (Ніжній, Ростов над Донам), а некаторыя савецкія генэралы праз Каўказ уцяклі заграніцу.

*Самагубства Чарвякова.* Дня 16 г. м. скончыў самагубствам доўгалетні Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Савецкай Беларусі (прэзыдэнт) Чарвякоў.

*„Шпіоны і дывэрсанты.“* На толькі што адбытым у Менску 16-тым зьезьдзе камуністычнай партыі Беларусі шмат прамоўцаў (Вайман з Бабруйска, Стакут з Гомеля) востра крытыкавалі „шпіонаў і дывэрсантаў,“ як Убарэвіч (расстраляны ў групе Тухачэўскага), Бэнэк, Дзякаў і інш., якія пралезьлі ў цэнтральныя ўстановы партыі. Былага прэм'ера БССР Галадзеда называлі на зьезьдзе „правым опортуністам;“ гэта пазваляе дагадвацца, што Галадзед ужо арыштаваны.

*Троцкі прамовіў.* Троцкі, які цяпер знаходзіцца ў Мэксыцы, 17 г.м. выслаў Цэнтр. Выкан. Камітэту СССР тэлеграму, у якой, у імя ратаваньня ад загубы здабыткаў бальшавіцкай рэвалюцыі, дамагаецца публічнай рэвізіі апошніх судовых працэсаў у СССР і ахвяроўвуе на гэта сваю помач.

## У Нямеччыне.

*Дыплёматычная разведка.* Гэтак называюць апошнюю падарож шэфа генэральнага штабу нямецкай арміі ген. Бэкк'а ў Парыж, міністра народнай гаспадаркі Шахта — ў Аўстрыю і праектаваную падарож міністра загр. спраў фон Нойрата — ў Лёндын. Кажуць, што Нямеччына хоча пераканаць сваіх бліжэйшых і дальшых суседзяў аб канешнасьці згоды Англіі з Італіяй, заканчэньні хатняй вайны ў Гішпаніі, дагавору аб міры на захадзе і патрэбе заморскіх калёніяў. — Генэрал Бэкк быццам запрапанаваў Францыі ўстрыманьне ваенных збраеньняў на дагэтуляшняй меры.

## У Францыі.

*Сьмерць Думэрг'а.* 18 г. м. памёр б. прэзыдэнт і многаразовы міністр Французкай Рэспублікі Гастон Думэрг. Нябожчык быў чынны ў палітыцы праз 40 гадоў і належаў да перадавых грамадзян свайго краю.

*Зьмена ўраду.* 21 г. м. прэм'ер Блюм разам з усім урадам падаўся ў адстаўку. Прэзыдэнт адстаўку прыняў і ўтварэньне ўраду даручыў Шотан'у, радыкалу.

## У Гішпаніі.

*Бой за Більбао.* Устрымаўшы акцыю на ўсіх іншых фронтах, паўстанцы ўсімі сіламі напіраюць на сталіцу Баскіі Більбао, якая, хоць акружана ўжо з трох бакоў, аднак заўзята бароніцца. Урад баскійскі пераехаў у м. Сантандэр.—Апошнія весткі падаюць, што Більбао перайшло ў рукі паўстанцаў.

*Ірляндцы пакінулі паўстанцаў.* Ірляндзкая самастойная брыгада, якая ваявала па старане паўстанцаў, пакідае іх і праз Португалію варочаецца дамоў.

## Жыды за сябе.

У бэльгійскіх газэтах з дня 18 г. м. апублікаваны пратэст „Сусьветнага Саюзу Польскіх Жыдоў“, у якім гэты Саюз між іншым „пратэстуе проціў становішча дзяржаўных органаў Польшчы, каторыя толеравалі (глядзелі праз пальцы на) пагром у Берасьці, які ня меў падобнага сабе нават пасярод антыжыдоўскіх выступленьняў арганізаваных прад вайной царскай паліцыяй“. — У польскіх кругох гэта адозва выклікала абурэньне. (Паводле „Dz. Wil.“).

Przesyłka opłacona ryczałtem.



# У нас і ў суседзяў

## Беларускае жыцьцё.

— Засудзілі. 22 г. м. ў Віленскім Гарадзкім Судзе разглядалася справа канфіскаты аднаднёўкі „За Беларускую Школу!,“ якая была выдана з датай 16 чэрвеня летась падчас тагочаснай беларускай школьнай акцыі і сканфіскавана Віленскім Гарадзкім Стараствам. Суд засудзіў выдаўца і рэдактара гэтай аднаднёўкі мгра. Я. Шутовіча на 1 месяц арышту, 50 зл. штрафу і аплату коштаў судовых.— Засуджаны адклікаецца ад гэтага прысуду ў Суд Акружны.

—Скасавалі і сканфіскавалі. Тыя беларускія дзеячы ў Вільні, якіх паліцыя трасла летась 28 лістапада, атрымалі 10 г. м. паведамленьне з пракуратуры Віленскага Акружнога Суду, што сьледзтва ў іхняй справе скасавана, а матарыялы ўзятыя ў іх — сканфіскаваныя. Гэткая канфіската шмат каго з беларусаў вельмі крыўдзіць, бо не дае ім магчымасьці карыстаць з награмаджаных матарыялаў дзеля навуковай працы. Таму зкажылі яны ў Акружны Суд умотываваныя скаргі з просьбай вярнуць ім сканфіскаваную прыватную маемасьць.

—Фонд культуры і Беларусы. 16 г. м. ў польскім Сойме разглядалася справа закону аб Фондзе Нацыянальнай Культуры. Соймавая Камісія (рэфэравала пасл. В. Пэлчынская) паставіла прапанову, каб у законе (§ 4) было зазначана, што з Фонду могуць карыстаць ня толькі палякі, але і ўсе іншыя народы, што жывуць у Польшчы, эн. і беларусы. Процiў гэткай устаўкі выступіў пасол ген. Л. Жэлігоўскі і пад прэтэкстам, што гэткі закон даваў-бы права да фонду і жыдом, дамагаўся, каб гэту ўстаўку выкінуць. Прапанову ген. Жэлігоўскага падтрымала большасьць Сойму і ўстаўка камісіі адпала.— Такім чынам беларусы ў Польшчы і на далей ня маюць законнага апірышча дамагацца запамогі з Фонду Культуры.

— Забаранілі. Сёлета ўвайшоў у сілу польскі закон, паводле якога ўсе арганізацыі, якія маюць нейкія азнакі для сваіх сяброў, на нашэньне гэтых азнакаў мусяць мець асобны дазвол ад уладаў агульнае адміністрацыі. Па думцы гэтага закону Беларускі Студэнцкі Саюз у сваім часе падаў у Віленскае ваяводзтва просьбу, каб дазволіла публічна насіць шапкі Саюзу і банты. Гэтымі днямі названае ваяводзтва прыслала адказ датаваны 7 г.м., у якім сябром Беларускага Студэнцкага Саюзу забараняецца насіць саюзныя шапкі і банты (істужкі). Ніякіх матываў гэта пастанова не падае. — Як мы чулі, урад Саюзу гэту пастанову заскаржыў у Міністэрства. — Характэрна, што студэнцкія саюзы іншых народаў гэткія дазволы ўжо атрымалі.

— Дэлегацыя Бацькаўскага Камітэту Беларускай Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні адведала 8 г м. Міністэрства Асьветы ў Варшаве і зкажыла там мэморыял у справе заснаваньня пры Філіі беларускага ліцэю. Справа гэта аднак дагэтуль ня вырашана. Дэлегацыю прыймаў візытатар на Віленскі Школьны Вокруг. Гэта ўжо другі выпадак за апошні год, як беларусам з сваімі жаданьнямі не ўдаецца дайсьці да самага міністра.

— Кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў Эўропы, які сёлета склікаецца ў Лёндын, пераложаны на тыдзень пазьней: замест праектаванага 7—9 ліпня, мае адбыцца 14—16 ліпня. — Беларускім дэлегатам на гэты кангрэс сёлета, як ведама, выбраны Кс. А. Станкевіч, які ўжо выслаў адпаведні свой рэфэрат.

— Беларусы ў Латвіі. Беларусы гор. Дзьвінска 9 мая сёлета арганізавалі „Сьвята Маці“ з гэткай праграмай: рэфэрат на тэму „Маці і сямейка“ прачытаў б. дырэктар Дзьвінскае Беларускае Гімназіі С. Сахараў. Пасьля рэфэрату грам-ка С. Карнавухава прадэклямавала поэтыцкі абразок „Любоў маці“, а беларускі хор пад кіраўніцтвам П. Залускага прапяяў некалькі беларускіх народных песьняў. — Гэты самы хор выступаў на канцэрце ўсіх нацыяў гор. Дзьвінска 16 студня сёл.

## З нашых сёлаў і мястэчак.

— Пажары. 17 г. м. згарэла прыгранічнае м-ка Клецк, Нясьвіскага пав., разам з царквой, поштай, сынагогай. Згарэла пры гэтым каля 450 розных будынкаў на агульную суму паўтара мільёна зл. — Гэтага самага дня ад іскры з чыгуначнага паравозу на лініі паміж Кастантыновам і Кабыльнікам загарэўся лес графа А. Старжынскага. Згарэла каля 700 гэктараў лесу.

— Музэй Дзісеншчыны. Музэй Дзісеншчыны быў заснаваны Краезнаўчым Таварыствам у 1931 годзе. Дагэтуль агульнымі сіламі сабраны 379 экспонатаў з прыроды, 139 экспонатаў археолёгічных, этнолёгічных і гістарычных, 203 розныя кніжкі, брашуры і дакуманты, 285 фотографіяў і абразоў і 599 розных манэтаў і банкнотаў. Сабраныя экспонаты тымчасам месьціцца ў памешканьні паветавага сойміку ў Глыбокім.

## У Літоўцаў.

— Амнэстыя. Прэзыдэнт Літвы Смэтона, з прычыны сваіх імянінаў, выдаў дэкрэт, якім дараваў кару для больш як 100 палітычных вязьняў, пераважна сялян, замешаных у леташніх сялянскіх дэмонстрацыях.

— Яз. Кайрюкштіс, б. дырэктар Літоўскай Вучыцельскай Сэмінарыі ў Вільні, памёр 15 г. м. ў Коўне, пражыўшы 82 гады.

— Забаранілі. Ваяводзтвы: Віленскае, Навагрудзкае і Беластоцкае паведамілі Цэнтральны Урад Саюзу Літоўскіх Вучыцялёў у Вільні, што забараняюць дзейнасьць Саюзу ў прыгранічнай паласе.

## У Палякоў.

— Новая партыя. Газэты падалі вестку, што група блізкая да ген. Сосньоўскага мае арганізаваць новую палітычную партыю, якая апіралася-б на „ідэолёгіі маршала Пілсудскага“ і на дэмократычных традыцыях 1914 г. Новую партыю маюць падтрымаць легіянэры-дэмакраты.—Калі-б гэта вестка спраўдзілася, быць азначала-б яна процiўвагу ОЗН-у, які арганізуе палкоўнік А. Коц.

— Кангрэс „Związku Młodej Wsi“ адбыўся ў Варшаве 19 і 20 г. м. На кангрэсе быў прысутны маршал Сьміглы-Рыдз. Ідэовая дэкларацыя кангрэсу фактычна ўлівае „ЗМВ“ у рады палітычнай арганізацыі палк. Коца ОЗН.

— Выбарны Закон. Пайшлі погаласкі, што на восенскай сэсіі Сойму й Сэнату будуць зложаны да разгляду два праекты новага выбарнага закону: урадавы і групы „Zarzewie“.

## У Украінцаў.

— Судовы працэс процiў 15 украінцаў пачаўся перад судом прысяжных у Львове ў першай палове г. м. Падсудных абвінавачваюць у прыналежнасьці да арганізацыі украінскіх нацыяналістаў (ОУН), а двух падсудных у тым, што быццам забілі трох сяброў ОУН, якіх падазравалі, што займаюцца даносамі ў паліцыю.

— Сьвята Герояў. Другі Дзень Сёмухі (па старому стылю) украінцы кожны год прысьвячаюць памяці паўшых на вайне сваіх братоў. З гэтай мэтай арганізуюцца ўрачыстыя паходы на могілкі. І сёлета такія паходы, дзе толькі жывуць украінцы, ладзіліся вельмі ўрачыста.

## З ВІЛЬНІ.

— Запатаемнае радіо. Апошнім часам было пастаноўлена, што калі ўлады знайдуць у каго патаемны апарат дзеля слуханьня радія, дык уласьнік такога апарату, апрача кары, павінен будзе аплаціць як адшкадаваньне за крышталковы апарат 6 зл., а за лямповы 18 зл.

— Зьлёт скаўтаў. Ад 24 чэрвеня да 8 ліпня ў Вільні мае адбывацца зьлёт скаўтаў Віленскага прапару. Зьлёт гэты арганізуецца дзеля адзначэньня 25-тых угодкаў існаваньня й працы мясцовай арганізацыі. Як ведама, пры Віленскім прапары (chorągwi) ёсьць аўтаномная беларуская дружына.

## Усячына.

— „Крывавы дождж“ ліў анагдай у Швайцарыі. „Крывавасьць“ ягоная ў тым, што разам з вадой ападае на зямлю і дробны чырванавы пыл, які ўздымаецца ветрам з афрыканскіх пустыняў і пераносіцца аж у Эўропу.

— Двухпудовы шчупак. Рыбакі з в. Мільча, Даўгінаўскай гм. вылавілі анагдай з Вяльлі шчупака, які важыў аж 2 пуды. На гэткі тавар аднак цяжка было знайсьці і купца. І таму рыбакі прадалі гэтага шчупака ў Даўгінаве за 2 (два) зл., г. зн. па 7 грашоў за кілё.

## Ці даходзіць акуратна?

Калі хто выслаў грошы на „Самапомач“ і паміма таго яе не атрымлівае, той някай ня траціцца на лішнія выдаткі і замест аплачваць пісьмо ў рэдакцыю, хай ідзе на сваю пошту і дамагаецца, каб пошта сама выслала **рэклямацыю**, г. зн. паўторнае запатрэбаваньне. Выгода такой рэклямацыі ў тым, што сам падпішчык за яе нічога ня плаціць, мае большую пэўнасьць што рэклямаваную газэту дастане, а рэдакцыя за высылку такога другога нумару таксама нічога ня плаціць.

Натуральна, рэклямацыю складаць можа толькі той, хто аплаціў падпіску. Складаючы рэклямацыю трэба ведаць, якога нумару часапісу падпішчык не атрымаў і дакладны адрэс нашай адміністрацыі (Вільня, Завальная 1.).

„Самапомач“ выходзіць 10 і 25 кожнага месяца.

ПАДПІСКА на „Самапомач“: да канца году — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам“ на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС“